Жанна Юбніцкая

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ ПЛАНУЕ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ПРЫТОК ІНВЕСТЫЦЫЙ СЁЛЕТА НА 3,2 ТРЛН РУБЛЁЎ

**У эканоміку Магілёўскай вобласці плануецца прыцягнуць у 2014 годзе 20 трлн. рублёў інвестыцый. У 2013 годзе інвестыцыі ў рэгіён склалі 16,8 трлн. рублёў.**



«Мы скарэктавалі планку мінулага года на індэкс росту цэн і ўзялі сабе заданне па росце ў 3,5%», — заявіў старшыня абласнога камітэта эканомікі Алег Буянаў агенцтву БелаПАН.

Рост інвестыцый вобласць спадзяецца атрымаць за кошт будаўніцтва новага жылля, 500 тыс. кв. м якога запланавана ўвесці сёлета. «Разлічваем таксама атрымаць прырост інвестыцый па мадэрнізацыі дзейных прадпрыемстваў. І трэці кірунак асноўны — упор зрабіць на прыцягненне новых інвестараў, на стварэнне ўмоў, каб у Магілёўскай вобласці новыя прадпрыемствы ствараліся больш актыўна, чым гэта было раней», — сказаў кіраўнік камітэта эканомікі.

Паводле яго, пачатак гэтай працы быў закладзены летась, калі вобласцю былі заключаны інвестыцыйныя дагаворы на 6 трлн. інвестыцый, якія будуць рэалізоўвацца ў 2014—2015 гадах. Акрамя таго, улады абяцаюць стварыць максімальна спрыяльныя ўмовы для новых інвестараў.

Буянаў паведаміў, што ў 2015 годзе, верагодна, магіляўчане змогуць наведаць мясцовы рэстаран хуткага харчавання «Макдональдс», на будаўніцтва якога ўжо падпісаны ўсе дагаворы. Што да «Макдональдса» ў Бабруйску, то там абвешчаны конкурс па выбары аператара, які будзе займацца будаўніцтвам гэтага рэстарана.

ПАЛІТВЯЗНІ

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ СТАЎ ПЕРАМОЖЦАМ ПРЭМІІ «АБАРОНЦА ГРАМАДЗЯНСКІХ ПРАВОЎ»

**Прэмія ўручаецца шведскім праваабарончым цэнтрам Civil Rights Defenders.**

Алесь Бяляцкі абараняў грамадзянскія правы нягледзячы на небяспеку, адзначаюць шведскія праваабаронцы.

Пераможца атрымае дыплом і статуэтку, а праваабарончая арганізацыя, якую ён прадстаўляе, — грашовую прэмію ў 50 тысяч еўра.

Узнагароду замест Алеся Бяляцкага атрымае 4 красавіка яго жонка Наталля Пінчук.

Прэмія «Абаронца грамадзянскіх правоў» уручаецца другі раз, летась яе атрымала Наташа Кандзіч з Сербіі, якая доўгі час займаецца расследаваннем вайсковых злачынстваў.



## ВАСИЛИЯ ПАРФЕНКОВА ЛИШИЛИ СВИДАНИЙ, ОТОВАРКИ И ПЕРЕДАЧ

**Начальство колонии № 9 в Горках начало кампанию давления и провокаций против Василия Парфенкова.**

Об этом сообщила общественная активистка Ольга Николайчик.

«Наконец ему вернули православный крестик, который я ему отправила. Проверяли на ценные металлы. Наверное, хотели «зажать», а после остатки совести заговорили. Василий очень просил этот крестик, так как ему там очень тяжело», - отметила она.

Активистка подчеркнула, что политзаключенный почти все время находится в ШИЗО.

«Василий говорит, что в карцере морально проще, потому что ты там один. А вот на зоне тяжелее – очень много провокаций, поэтому все время нужно держать ухо востро. Сидеть ему осталось восемь месяцев, а свиданий, отоварки и передач его уже лишили», - подчеркнула Ольга Николайчик.

Напомним, 5 декабря 2013 года Первомайский суд Минска приговорил Василия Парфенкова к 1 году колонии строгого режима за «нарушение правил профилактического надзора».

В 2011 году Василий Парфенков был осужден на 4 года лишения свободы за участие в митинге 19 декабря 2010 года.



# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№67

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 7 красавіка 2014 г.


ГРАМАДСТВА

Маргарита Буйкевич

## МОГИЛЕВЧАНИН СЕРГЕЙ ШИБЕКО СМОГ ПРИВЛЕЧЬ АДМИНИСТРАЦИЮ ЗАВОДА «СТОММАШИНА» К ШТРАФНЫМ САНКЦИЯМ

**В результате его противостояния с руководством предприятия бывший водитель смог также получить денежную компенсацию в размере почти 13 миллионов рублей.**




**Депрессивное предприятие**

Год назад Сергей переехал в Могилёв из Орши на постоянное место жительства и устроился водителем на завод ОАО «Стоммашина». Ему обещали неплохую зарплату и дали для работы фуру, которая была неисправна. За несколько месяцев он привёл машину в рабочее состояние и начал перевозить на ней грузы в разные города Беларуси. Так продолжалось несколько месяцев, однако зарплата у него так и не стала больше, застряв на отметке в 3,5 миллиона рублей.

- Когда я переезжал жить в Могилёв, то и подумать не мог, что в областном центре зарплаты меньше, чем в Орше. На своём старом рабочем месте я бы сейчас зарабатывал не менее 5 миллионов рублей, - говорит Сергей.

Когда же рабочий решил уволиться с предприятия раньше истечения заключённого с ним на 1 год контракта, то началось буквальное противостояние его и администрации предприятия. Его не под каким предлогом не хотели отпускать с работы. Это и не удивительно, ведь благодаря трудовым контрактам администрация «Строммашины» сдерживала текучку кадров.

**Продолжение на стр.6**

## НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ АД 1 КРАСАВІКА ПАДАРАЖЭЎ ПРАЕЗД

**У Магілёўскай вобласці 1 красавіка кошт праезду ў гарадскіх аўтобусах і тралейбусах узрос з 2.700 да 3.200 рублёў.**

Цяпер месячны білет на адзін тып транспарту будзе каштаваць 144 тыс. рублёў, камбінаваны — 192,2 тыс. рублёў. Акрамя таго, узрос кошт праезду ў прыгарадных зносінах з 414 рублёў да 488 рублёў за 1 км. Чыноўнікі з аблвыканкаму тлумачаць павышэнне коштаў неабходнасцю пакрыцця страт транспартных арганізацый і зніжэння нагрузкі на бюджэт.

Пры гэтым рашэннем адпаведнай рэспубліканскай камісіі, якая ўзначальваецца віцэ-прэм'ерам Пятром Пракаповічам, прадугледжана яшчэ два разы павялічыць кошт праезду ў гарадскім грамадскім транспарце ў другой палове 2014 года.

Папярэдні раз у Магілёўскай вобласці кошт праезду ў гарадскіх аўтобусах і тралейбусах павялічыўся 4 снежня 2013 года.

Адзначым, што ў 2013 годзе тарыф на праезд у гарадскім грамадскім транспарце павялічваўся тройчы: 23 мая ён стаў на ўзроўні 1.700 рублёў, 2 кастрычніка - 2.200 рублёў, 4 снежня - 2.700 рублёў.

У 2012 годзе кошт праезду павялічвалася двойчы: 6 красавіка цана білета дасягнула 1.300 рублёў, 4 кастрычніка 1.400 рублёў.

У 2011 годзе пасажыры грамадскага транспарту ў Магілёве не паспявалі прызвычайіцца да зменлівых тарыфаў на праезд, бо тыя цягам году мяняліся ажно чатыры разы: напачатку красавіка за білет трэба было заплаціць 700 рублёў, 31 ліпеня - 750 рублёў, 7 верасня - 800 рублёў, 1 лістапада - 1.100 рублёў.

■ tut.by

## ВРАЧАМ ПОЛИКЛИНИК И СКОРОЙ ПОВЫСИЛИ ЗАРПЛАТЫ

**Вслед за работниками детских дошкольных учреждений повышения зарплат дождались врачи государственных клиник. Постановлением правительства с 1 апреля увеличены размеры тарифных ставок отдельным категориям медиков.**



Так, оклад участковых терапевтов, педиатров, врачей общей практики, а также тех, кто оказывает скорую (неотложную) медицинскую помощь, вырастет на 40%.

Для медсестер, помощников врачей по амбулаторно-поликлинической помощи, фельдшеров, медработников фельдшерско-акушерских пунктов предусмотрено увеличение тарифной ставки на 30%. Такая же прибавка ждет и работников скорой, имеющих среднее медицинское образование.

Также на 20% вырастет зарплата санитарок скорой (неотложной) медицинской помощи.

«Принятие этого постановления позволит решить задачи по дальнейшему стимулированию труда и развитию первичной медицинской помощи в поликлинических условиях и условиях неотложной медицинской помощи, - считают в пресс-службе Совета министров. - Повышение тарифных окладов будет также способствовать укомплектованию участковой службы и службы скорой медицинской помощи».

Как отмечают в правительстве, на уровне первичного звена здравоохранения начинают и заканчивают обследование и лечение до 80% пациентов.

«Обеспечение доступности и высокого качества медицинского обслуживания в амбулаторных условиях имеет первостепенное значение для эффективной работы всей системы здравоохранения и может быть достигнуто только при наличии высококвалифицированных врачей-специалистов, имеющих достойный уровень оплаты труда», - отмечают авторы документа.

Напомним, на незначительном увеличении зарплат бюджетников должно сказаться и повышение тарифной ставки первого разряда. С 1 апреля она поднялась на 2 тысячи - до 262 тысяч рублей. С мая этот показатель вырастет до 275 тысяч.

## ПЕРШАЕ БЕЛАРУСКАЕ АЎТО СУМЕСНА З GENERAL MOTORS БУДЗЕ ВЫПУШЧАНА З ЛІПЕНЯ

**Пра гэта ішла размова на сустрэчы 2 красавіка міністра замежных спраў Уладзіміра Макея з дэлегацыяй на чале з прэзідэнтам і дырэктарам па Расіі і СНД кампаніі General Motors Эндзі Данстанам.**

На сустрэчы адбыўся абмен думкамі аб ходзе рэалізацыі інвестыцыйнага праекта па стварэнні ў Беларусі зборачнай вытворчасці легкавых аўтамабіляў на базе СП ЗАТ «Юнісан».

Кампанія General Motors сумесна з беларускім партнёрам плануюць, што першы аўтамабіль сыдзе з канвеера 3 ліпеня 2014, і гэта падзея будзе прымеркавана да святкавання 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

General Motors і яе партнёры вырабляюць аўтамабілі ў 30 краінах. Кампанія з'яўляецца лідарам аўтамабільнага рынку, самага буйнога і хуткарослага ў свеце. General Motors належаць такія брэнды, як Chevrolet, Cadillac, Baojun, Buick, GMC, Holden, Isuzu, Jiefang, Opel, Vauxhall і Wuling. У Расіі кампанія прадстаўлена з 1992 года брэндамі Chevrolet, Opel і Cadillac.

СП ЗАТ «Юнісон» размешчана ў вёсцы Абчак у 10 км ад Мінска. Прадпрыемства заснавана ў 1996 годзе як беларуска-брытанскае сумеснае прадпрыемства Ford Union, а ў 2000 годзе пераўтворана ў СП ЗАТ «Юнісан». На працягу больш за 15 гадоў прадпрыемства ажыццяўляла зборку шэрагу аўтамабільных марак, уключаючы Ford, KIA, Samand.

## ШУМЯЦКІ РАЁН СМАЛЕНШЧЫНЫ ХОЧА Ў СКЛАД БЕЛАРУСІ

**У інтэрнэце з'явілася ан-лайн петыцыя, дзе адбываецца збор подпісаў аб уваходжанні Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці Расійскай Федэрацыі ў склад Рэспублікі Беларусь.**

За некалькі дзён пад петыцыяй падпісалася больш за 400 чалавек, як расіян, так і беларусаў.

Ініцыятар петыцыі хоча, каб у Шумяцкім раёне адбыўся рэферэндум аб уваходжанні адвечна беларускіх земляў у склад Беларусі.

Да 1939 года большая частка Шумяцкага раёна уваходзіла ў склад БССР.

На дадзены момант у Шумяцкім раёне знаходзіцца восем паселішчаў. Па стану на 2007 год у іх пражывала 13 580 чалавек. Цэнтр раёна – мястэчка Шумячы з насельніцтвам у 4570 жыхароў. Шумяцкі раён знаходзіцца на мяжы з Магілёўскай вобласцю.



■ Ядвіга Люнтова

## АДА РОГАЎЦАВА Ў МАГІЛЁВЕ: Я УКРАІНКА, ПАТРЫЁТКА І БЯЗМЕЖНА ЛЮБЛЮ СВОЙ НАРОД

**«Я ўкраінка, патрыётка і бязмежна люблю свой народ», — заявіла журналістам народная артыстка СССР Ада Рогаўцава 23 сакавіка пасля творчай сустрэчы з гледачамі ў магілёўскім кінатэатры «Радзіма».**



«Жанчына вынесла мне букецік, як наш сцяг — жоўта-блакітны, і маё сэрца ёкнула, а я не магу выказваць асаблівай радасці, таму што абавязкова ў зале будзе сядзець нехта, каму гэта непрыемна. Не хочацца ніякіх раздражняльнікаў там, дзе іх можна пазбегнуць», — сказала артыстка. Атрымаўшы букет з жоўтых і блакітных хрызантэм ад удзельніцы сустрэчы, яна пацалавала кветкі.

Падчас сустрэчы з журналістамі Рогаўцава адзначыла, што цяпер ва Украіне цяжкі час, адчуваецца скаванасць і напружанасць. Разам з тым актрыса адмовілася выказаць меркаванне, што чакае народы Украіны і Расіі ў цяперашнім палітычным канфлікце.

Нагадаем, народная артыстка СССР і УССР, Герой Украіны Ада Рогаўцава з'яўляецца старшынёй журы IX Міжнароднага маладзёжнага тэатральнага форуму «M.@rt.кантакт-2014», які 21—27 сакавіка праходзіў у Магілёве.

Раней, у пачатку сакавіка, у эфіры ўкраінскага тэлеканала «1+1» артыстка звярнулася да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна са словамі: «Пашкадуйце наш народ, не павінна быць вайны».

■ Станіслаў Дубовік

## НА МАГІЛЁЎСКАЙ РАТУШЫ ПЛАНУЮЦЬ УСТАНАВІЦЬ РУХОМУЮ ФІГУРУ ГАРНІСТА

**У Магілёве на будынку ратушы будзе ўстаноўлена фігура гарніста, «які трубіць» па поўных гадзінах.**



Як паведаміў дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, магілёўскі гадзіннікавы майстар Генадзь Галоўчык прапанаваў стварыць фігуру, якая будзе з'яўляцца ў поўны час і трубіць у трубу з балкона ратушы. «Пакуль мы думаем, што фанфары будуць гучаць штодня ў 12.00, але, магчыма, зробім, каб яны гучалі кожныя дзве ці тры гадзіны. Будзем таксама сінхранізаваць выкананне музыкі трубачом з боем гадзінніка на ратушы», — адзначыў дырэктар музея. Фігура трубача будзе выраблена ў чалавечы рост. Над яе стварэннем працуе магілёўскі скульптар Андрэй Вараб'ёў.

Музыка, якую будзе «выконваць» трубач, будзе падобная на тую, што гучала ў Магілёве ў часы Магдэбургскага права XVI—XVIII стагоддзяў. «Захаваліся дакументы, якія сведчаць, што ў ратушы сапраўды ігралі на музычных інструментах, былі нейкія сігнальныя кампазіцыі, што выконваліся на горне ці трубе», — сказаў Бацюкоў.

Ён паведаміў, што зараз падбіраецца і адпаведны гэтаму гістарычнаму перыяду касцюм для гарніста.

«Пакуль мы не прыдумалі яму імя. І калі не знойдзем у архіўных дакументах імя чалавека, які мог быць фанфарыстам, то абвесцім конкурс», — кажа Бацюкова.

На стварэнне фігуры трубача Магілёўскі гарвыканкам выдзеліў 100 млн. рублёў, аднак музей будзе рады і спонсарскай дапамозе, якая дазволіць падабраць для стварэння скульптуры больш якасныя матэрыялы.

Мяркуецца, што трубач «зайграе» на балконе ратушы праз тры месяцы, 28 чэрвеня, — у дзень вызвалення Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Продолжение. Начало на стр.1

**Один в поле не воин**

Поняв, что одному противостоять целому заводу сложно, водитель обратился за помощью в независимый профсоюз Радиоэлектронной промышленности, который на протяжении всего периода оказывал Сергею всю необходимую юридическую и психологическую помощь. В итоге, не без порванных нервов, Сергей Шибеко смог уволиться по статье 41 Трудовога Кодекса, т.е. до истечения срока действия трудового контракта со всеми причитающимися денежными выплатами - средней трёхмесячной зарплатой и двухнедельным денежным пособием.

Руководство предприятия поняв безнадёжность занимаемой ими позиции пошло на уступки и отказалось от судебного разбирательства, ведь на руках были неопровержимые доказательства того, что предприятие на протяжении всего времени нарушало обговоренные условия трудового контракта - не выплачивало вовремя зарплату и отпускные, а также не выдавало спецодежду, не поддерживало в гаражах необходимую температуру помещения, а также злоупотребляло санитарными требованиями. Элементарно, рабочие даже зимой не могли помыть руки горячей водой.

Курировал же «трудовое рабство» начальник отдела кадров Астапенко, который удерживал рабочих благодаря заключённым ранее трудовым контрактам.

Ситуацию комментирует юрист независимого профсоюза РЭП Алёна Борисова:

- На Заводе в течении 2013 года постоянно задерживали выдачу заработной платы. С новоподписанным коллективным договором вроде ситуация стала лучше, однако и тут юрист и отдел кадров решили схитрить - заключили с рабочими дополнения к контракту, однако никому на руки их не выдали. Там вообще такая ситуация - захочет трудяга получить свои законные трудовые документы, например, коллективный договор или контракт или ещё что, его просто посылают не стесняясь на три буквы. А когда на беззаконие попросишь книгу замечаний и предложений тебе попросту ответят - пошел вон! Вот так и приходится работать годами, пока не наступит озарение, что я ж рабочий человек, могу обратиться за защитой своих прав и законных интересов в профсоюз. Так и поступил Сергей Шибеко.



**Под психологическим давлением**

После того, как Сергей Шибеко решил уволиться с предприятия на него началось давление.

- Когда я захотел досрочно расторгнуть контракт с нанимателем по соглашению сторон - на меня началось такое психологическое давление, что я не мог ни спать ни есть. На счастье за помощью я обратился в профсоюз РЭП, где мне стали оказывать всяческую юридическую помощь, - говорит Сергей.

Как только его проблемой начал заниматься независимый профсоюз желание оставить у себя на работе Сергея у администрации «Строммашины» сразу же пропало. Руководство начало предлагать водителю расторгнуть трудовой контракт по соглашению сторон, однако тут уже занял принципиальную позицию Сергей Шибеко, который ответил, что раньше нужно было идти ему на встречу, а не поворачивать задом. Сергей в этом вопросе занял принципиальную позицию и наотрез отказался идти у поводу своего начальства.

Юрист профсоюза РЭП Алёна Борисова рассказывает, что впервые столкнулась с такой мощной психологической обработкой человека и нарушением закона:

- У Сергея не только не принимали различные заявления, которые он писал, но и выгоняли из кабинетов, говорили, что никаких документов он не получит, что может жаловаться куда хочет. Были написаны жалобы в различные инстанции как на местном, так и на более высоком уровне. Жалоба в КГБ уже дала результат, за поведение юриста завода (жены начальника отдела кадров) будет привлечена к административной ответственности заведующая канцелярии, которая по её указанию не выдала книгу замечаний и предложений, а также не принимала заявления, которые приходилось направлять по почте.

**Штрафные санкции**

За нарушение трудового законодательства, несвоевременную выплату заработной платы за декабрь 2013 года, директор Ануфриенко был привлечён к административной ответственности в виде нескольких штрафов.

Начальник транспортного цеха Кирсанов за нарушение законодательства об охране труда привлечён к административной ответственности в виде штрафа.



■ Яўген Калмач

## АДМІНІСТРАЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА АДМОВІЛАСЯ РАЗГЛЯДАЦЬ ЗВАРОТ МАГІЛЯЎЧАН АБ НЕДАПУШЧЭННІ ВЫСЯЛЕННЯ МАЦІ-АДЗІНОЧКІ З МАЛАЛЕТНІМІ ДЗЕЦЬМІ

**Адміністрацыя прэзідэнта пакінула без разгляду ліст прыкладна 30 бацькоў вучняў магілёўскай СШ № 26 у абарону маці-адзіночкі Ірыны Ільінскай.**

18 сакавіка бацькі вучняў сярэдняй школы № 26 звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай не дапусціць высялення з інтэрната Ірыны Ільінскай з двума малалетнімі дзецьмі. Да таго, 12 сакавіка суддзя Ленінскага раёна Магілёва Юлія Трапыніна вынесла рашэнне аб высяленні Ірыны Ільінскай і яе дзяцей васьмі і двух гадоў з інтэрната ААТ «Будтрэст №12» без прадастаўлення іншага жылля. Ірына Ільінская знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку па доглядзе за дзіцем і цяпер не працуе.

«Мы, бацькі дзяцей СШ № 26, просім вас абараніць ад высялення маці-адзіночку двух дзяцей васьмі гадоў і двух гадоў і сямі месяцаў, якую судом будтрэст № 12 высяляе з інтэрната ў сувязі з прынятымі змяненнямі ў Жыллёвы кодэкс, хоць яна там пражыла 14 гадоў і плаціць кватрплату», — гаварылася ў звароце.

«Звароты, у якіх абскарджваюцца судовыя пастановы, застаюцца без разгляду і падлягаюць вяртанню заяўнікам. Такія пытанні могуць быць вырашаны толькі з выкананнем патрабаванняў працэсуальнага заканадаўства», — гаворыцца ў адказе начальніка галоўнага ўпраўлення па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб адміністрацыі прэзідэнта Станіслава Буко, накіраваным на імя ініцыятара ліста Аляксея Паўлоўскага.

Таксама ў лісце ўказваецца, што Паўлоўскім не прад'яўлена даверанасць на права звароту ад імя Ірыны Ільінскай.

Ініцыятар звароту не згодны з адказам і лічыць, што прэзідэнт не павінен заставацца безуважным да жыллёвай праблемы маці-адзіночкі, асабліва ўлічваючы тое, што ён рос, гэтак жа як і дзеці Ільінскай, без бацькі.



«Жыць няма дзе, хоць ты на вуліцы намёт стаў», — заявіла ў сваю чаргу Ірына Ільінская. Паводле яе, суддзя Трапыніна не мела права прымаць рашэнне аб высяленні яе без выдзялення іншага жылля, паколькі ў яе на ўтрыманні знаходзяцца малалетнія дзеці. Ірына Ільінская заявіла пра намер абскардзіць прынятае судом Ленінскага раёна рашэнне ў касацыйным парадку.

У 2004 годзе з Ільінскай быў заключаны бестэрміновы дагавор найму жылога памяшкання ў інтэрнаце будтрэста № 12. Аднак у 2011 годзе з ёй перазаключылі дагавор на тэрміновы, растлумачыўшы, што ніякіх наступстваў для яе гэта не будзе мець. Пасля заканчэння тэрміну дагавора найму жылога памяшкання адміністрацыя будтрэста падала іскавую заяву аб высяленні Ільінскай і яе двух малалетніх дзяцей.

■ Станіслаў Дубовік

## МАГІЛЁЎСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ «ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ» ПРАВЯЛА ЎРАЧЫСТУЮ ВЕЧАРЫНУ, ПРЫСВЕЧАНУЮ ДНЮ ВОЛІ

**У Магілёве 24 сакавіка прыкладна 40 чалавек узялі ўдзел ва ўрачыстай вечарыне, прысвечанай чарговай гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Мерапрыемства арганізавала гарадская арганізацыя «Таварыства беларускай мовы» (ТБМ).**

«Сёлета ўсе палітычныя сілы, якія звычайна ладзілі святкаванне Дня Волі, з-за занятасці выбарамі адышлі ад арганізацыі святочных мерапрыемстваў. Таму ТБМ узяло на сябе гэту функцыю», — паведаміў старшыня гарадской арганізацыі ТБМ Алег Дзьячкоў.

Людзі розных узростаў, якія прыйшлі ў грамадскі цэнтр «Кола», паглядзелі дакументальны фільм пра БНР, праслухалі вершы і песні магілёўскіх паэтаў і бардаў, узялі ўдзел у гульні на веданне гісторыі пачатку XX стагоддзя, пераможцы якой атрымалі салодкія прызы.

Прысутныя не абышлі ўвагай падзеі ва Украіне, правялі паралелі з падзеямі стогадовай даўніны. «У Беларусі не хапае беларусаў, іх засталося тут вельмі мала, — мяркуе магілёўскі гісторык Ігар Пушкін. — Таму першачарговая задача зараз — выхоўваць беларусаў».

Алег Дзьячкоў застаўся задаволены гэтым мерапрыемствам. «Я рады, што прыйшлі людзі, якіх я ўпершыню ўбачыў, моладзь. Студэнтаў было шмат. І шмат тых студэнтаў, якія пішуць літаратурныя творы і неабыякавыя да сваёй гісторыі».

Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ ЖЫХАРЫ ДАМОЎ, ЯКІЯ ПЛАНУЕЦЦА ЗНЕСЦІ, АБВІНАВАЧВАЮЦЬ МЯСЦОВЫЯ ЎЛАДЫ Ў НЕЗАКОННЫХ ДЗЕЯННЯХ

**У Магілёве 79 жыхароў сямі жылых дамоў па вуліцы Крупскай патрабуюць ад гарадскіх уладаў адмяніць рашэнне аб зносе гэтых будынкаў, прынятае, на іх думку, незаконна. Адпаведны калектыўны зварот накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта, Магілёўскі аблвыканкам і Магілёўскі гарсавет.**

Магілёўскі гарвыканкам 26 снежня 2013 года прызнаў, што сем дамоў, якія знаходзяцца на тэрыторыі былой вайсковай часці па вуліцы Крупскай, непрыгодныя для жылля і падлягаюць зносу. Такое рашэнне было прынята на падставе абследавання тэхнічнага стану кватэр, праведзенага ў тым жа годзе. Тым не менш яшчэ у 2011 годзе кватэры, паводле слоў жыхароў, афіцыйна не лічыліся непрыгоднымі для пражывання.

Як сцвярджаюць падпісанты, Магілёўскі гарвыканкам неабгрунтавана і тайна прыняў рашэнне аб непрыгоднасці кватэр для жылля — не паведаміў жыхарам аб рашэнні ў сямідзённы тэрмін, як гэтага патрабуе Жыллёвы кодэкс. Таксама, паводле слоў жыхароў, акты абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць рэчаіснасці. Жыхары ўпэўнены, што іх дамы «сталінскай пабудовы» знаходзяцца ў здавальняючым стане і маюць патрэбу толькі ў касметычным рамонце.

17 сакавіка ў памяшканні сярэдняй школы № 25 адбылася сустрэча каля 60 жыхароў з прадстаўнікамі Магілёўскага гарадскога і абласнога выканкамаў жыллёва-рамонтна эксплуатацыйнага ўпраўлення Ленінскага раёна Магілёва.

Як заявіў на сустрэчы намеснік начальніка гарадскога аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксей Шарай, рашэнне гарвыканкама было прынятае законна з выкананнем неабходных працэдур. Ён расказаў, што на працягу 2014 года гэтыя дамы будуць знесены. Тыя, хто мае ў іх прыватызаваныя кватэры, уселяцца ў арэндные жыллё і атрымаюць грашовую кампенсацыю па рыначным кошце сваіх цяперашніх кватэр. Жыхарам непрыватызаваных кватэр будзе прапанаванае жыллё з дзяржаўнага жылога фонду з магчымасцю яго прыватызацыі да 2016 года.

На сустрэчы жыхары сцвярджалі, што раптоўнае рашэнне аб зносе дамоў было выклікана прыцягненнем інвестара, які павінен будзе пабудаваць на тэрыторыі былой вайсковай часці новы мікрараён з гандлёвым цэнтрам. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў снежні 2013 года гаварыў магілёўскі гараданачальнік Уладзімір Цумараў. Жыхары патрабавалі, каб за кошт інвестара ім былі выдзеленыя кватэры, якія адпавядаюць іх патрабаванням.

Аднак Аляксей Шарай сцвярджаў, што яму нічога не вядома пра будаўніцтва. Нязгодным жа з рашэннем гарвыканкама ён параіў звяртацца ў суд.

Жыхары не згадзіліся з пазіцыяй прадстаўнікоў улады і стварылі ініцыятыўную групу з дзевяці чалавек, на якую ўскладзены паўнамоцтвы вядзення далейшых перамоў і каардынацыі дзеянняў.

Як паведаміў «НАШаму Магілёву» магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель, напачатку красавіка нязгодныя з меркаваннем улад аб непрыдатнасці будынкаў для пражывання звярнуліся да незалежнай экспертызы з Мінску, каб тая дала сваё заключэнне, а таксама спраўдзіла ўсе высновы магілёўскіх чыноўнікаў па гэтых дамах.

Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ АДБЫЛАСЯ ПРЭМ'ЕРА ФІЛЬМА «ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ, ЦІ ЦУДА-ВОСТРАЎ»

**У магілёўскіх кінатэатрах «Радзіма» і «Космас» 21 сакавіка адбылася прэм'ерная дэманстрацыя новага фільма для дзяцей «Палескія рабінзоны, ці Цуда-востраў». Час шырокага выхаду новай карціны на экраны кінатэатраў пакуль не вызначаны.**

Згодна інфармацыі «Кінавідэапраката», карціна знятая на студыі «Беларусьфільм» паводле славутай аповесці Янкі Маўра «Палескія рабінзоны». «Сюжэт новай версіі «Палескіх рабінзонаў» прысвечаны прыгодам галоўных герояў фільма, якія трапляюць на дзіўны востраў, дзе сыходзяцца часы і можна апынуцца ў іншым вымярэнні», — распавядаецца ў абвесціцы арганізатараў кінапаказу.




Новы фільм аб «палескіх рабінзонах» — ужо трэці зварот «Беларусьфільма» да творчасці Янкі Маўра. Кожная новая стужка з'яўляецца на свет роўна праз 40 гадоў пасля папярэдняй. Так, упершыню аповесць была экранізаваная ў 1934 годзе, аўтарам сцэнарыя аднайменнай кінастужкі выступіў сам Янка Маўр. Карціна стала дэбютнай работай маладых рэжысёраў Іосіфа Бахара і Леаніда Малчанава. Фільм быў нямы, чорна-белы, да нашых дзён дайшоў толькі часткова. У 1974 годзе быў зняты тэлевізійны фільм «Неадкрытыя астравы», сцэнарый да якога напісаў драматург Канстанцін Губарэвіч, рэжысёрам выступіў Леанід Мартынюк.

У галоўных ролях фільма «Палескія рабінзоны, ці Цуда-востраў» зняліся беларускія школьнікі з розных гарадоў.



Вітольд Няўрыда

## АЛЕСЬ СІЛКОЎ: НАЗІРАННЕ НА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ МАЕ СЭНС, КАЛІ БУДЗЕ АДЗІНЫ КАНДЫДАТ АД АПАЗІЦЫІ

**Каардынатар кампаніі па назіранні за выбарамі у межах кампаніі "Права выбара" Алесь Сілкоў адказаў на пытанні журналіста газеты "НАШ Магілёў".**



**Алесь, як прайшлі выбары?**

Як і чакалася – выбараў у нашай краіне яшчэ няма. Такімі тэмпамі, як мы ідзем зараз, і сігналамі, якія нам даюць улады, можна казаць пра дэмакратычныя выбары ў Беларусі ў лепшым выпадку праз 20-25 год.

Шмат разнастайных парушэнняў і самае галоўнае з іх – члены камісій не лічаць галасы. Яны робяць усё, як ім кажуць зверху. Мне ўсё гэта нагадвае сітуацыю з нямецкімі салдатамі СС, якім казалі – забівайце і вам нічога за гэта не будзе. Адсюль і аналогія з выбарчымі камісіямі такая – фальсіфікуйце і вам за гэта нічога не будзе.

**Колькі ўчасткаў здолела ахапіць кампанія па назіранні "Права выбара"?**

Нашы назіральнікі прысутнічалі падчас датэрміновага галасавання на 326 выбарчых участках, а ў дзень выбараў на 416 участках ва ўсіх абласцях Беларусі. Аднак, гэтай колькасць для паўнавартаснага назірання недастаткова. Мы закрывалі толькі кожны 20 участак. Назіранне здзяйснялася толькі там, дзе былі кандыдаты ад дэмакратычных сілаў. На ўчастках, дзе выбары праходзілі безальтарнатыўна, а таксама дзе не было дэмакратычных кандыдатаў у дэпутаты назіранне не вялося. Не было ніякага сэнсу. Акцэнт назіральнікаў рабіўся на тое, каб не дапусціць фальсіфікацый супраць свайго кандыдата.

**Ці адпавядае яўка выбаршчыкаў афіцыйным лічбам?**

Ёсць участкі, дзе назіральнікі вялі педантычны падлік усіх выбаршчыкаў, якія прыйшлі, каб прагаласаваць. Вось тут, хачу адзначыць, ёсць істотнае разыходжанне з афіцыйнымі лічбамі ў асноўны дзень галасавання. Ёсць участкі, у тым ліку ў Магілёве, дзе такія разыходжанні складаюць амаль у 2 разы.

Хоць паняцця яўкі ў цяперашнім Выбарчым кодэксе няма, улада робіць усё магчымае, каб паказаць сваю здольнасць мабілізаваць людзей, каб яны прыйшлі на выбары. Гэта ў нейкай ступені легітымізуе вынікі галасавання і паказвае, што людзі галасуюць і абіраюць "дастойных" дэпутатаў і што яны адгукаюцца на дзяржаўныя мерапрыемствы.

У Мінску яўка была ў раёне 30%. У Магілёве ў раёне 40-60%, у залежнасці ад участка, аднак далёка не тыя 80%, як нас спрабуюць пераканаць дзяржаўныя прапагандысты.

**Ці былі якія здарэнні на выбарчых участках?**

Натуральна што так. У Магілёве на выбарчым участку №72 у назіральніцы Наталіі Шкадун падчас падліку галасоў выбаршчыкаў членамі выбарчай камісіі здарыўся сардэчны прыступ. Дагэтуль жанчына ўступіла ў канфлікт з гэтай камісіяй, бо яны парушалі выбарчае заканадаўства – на ўчастку прысутнічалі пастаронні асобы, ім прадастаўляліся спісы выбаршчыкаў, а таксама адзін з выбаршчыкаў хацеў прагаласаваць па свайму студэнцкаму білету. Ён не быў у асноўным спісе для галасавання, а ў студэнцкім прапіску не пазначаюць.

Яшчэ адзін з выпадкаў таксама адбыўся ў Магілёве, калі пенсіянерак у каршэнь з участка выганялі члены ўчастковай выбарчай камісіі. Так яны праяўлялі непавагу да сталых людзей, а таксама абаранялі сябе ад лішніх асоб, якія маглі стаць відавочцамі іх махлярстваў і фальсіфікацый.

**Колькі дэмакратаў у выніку стала дэпутатамі?**

Спачатку мы мелі звесткі аб тым, што 5 дэмакратаў перамаглі на выбарах. Тры чалавекі ад Беларускай партыі левых "Справядлівы свет", адзін ад аргкамітэта партыі Беларуская Хрысціянская дэмакратыя, адзін ад "Руху за свабоду".

Аднак, калі кандыдат у дэпутаты ад "Руху за свабоду" перамог на выбарах у Амбросеўскі сельскі Савет у Віцебскай вобласці і прыйшоў на наступны дзень, каб афіцыйна атрымаць звесткі, то ў яго папрасілі прабачэння і сказалі, што памыліліся з падлікам галасоў. Ён адзін голас саступіў сваёй апанентцы. Вось такі кур'ёз.

**Ці збіраецеся назіраць на прэзідэнцкіх выбарах?**

Назіранне за ходам прэзідэнцкіх выбараў будзе мець сэнс толькі тады, калі ад дэмакратычных сілаў будзе адзіны кандыдат. У іншым выпадку назіраць не мае сэнсу. Беларускую апазіцыю давялі да маргінальнага стану і праз адсутнасць яе фінансавання і пераследу яна слабее з кожным годам. На выбарах 2015 года гутарка мусіць ісці аб адзіным кандыдаце, як для левых, так і для правых, бо арганізацыйныя здольнасці дэмакратычных структур моцна аслаблены. Тым часам казаць пра перамогу апазіцыі на выбарах і сцэнары Плошчы не даводзіцца – адміністрацыйны рэсурс зробіць сваю справу, а беларусы баяцца зараз дэстабілізацыі сітуацыі ў грамадстве, як гэта адбылося ва Украіне, як бес ладану.